



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Найлепшая рэгіянальная газета года 2017

Найлепшая рэгіянальная газета года 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

19 красавіка 2019 года №16 (1251)

18+


## Хто з новых гульцоў будзе абараняць колеры ФК «Маладзечна»

старонка 22

На фота: трэніроўка ФК «Маладзечна». Фота Таццяны КАСЬЯН.







ISSN 1991–7155




Адсканууйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/













### У Маладзечне гутарылі пра мужчынскае здароўе

старонка 19

### У рэдакцыі абмеркавалі, дзе вучыцца і працаваць людзям з інваліднасцю

старонкі 20-21

### У Маскве не ведаюць, у якую камеру змясціць транссэксуала з Маладзечна

старонка 4

# Зладзілі дзень шпакоўні, зрабілі лаўкі з паддонаў і пясочніцу

## Як жыхары Маладзечна добраўпарадкавалі ўласны двор

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА

**13 красавіка актыўныя жыхары аднаго з маладзечанскіх двароў па Францыска Скарыны правялі дзень шпакоўні.**

Самі зрабілі, упрыгожылі і развесілі шэсць шпакоўняў.

**Андрэй Зайцаў** – адзін з тых, хто дапамагаў прымацоўваць шпакоўні да дрэў.

– Мы жывём у гэтым двары, даведаліся праз групу ў вайберы, што будзе дзень шпакоўні. Двое дзяцей маленькіх, **Данііл** і **Дзям'ян**, зрабілі дзве шпакоўні, і кожную дзіця павесіла.

Сваю шпакоўню павесіла і **Юлія Тарасава**. Дзяўчына нарадзілася ў вёсцы Пагост, што на Вілейшчыне, цяпер вучыцца ў Маладзечне.

> Ад настаўніцы яна даведалася, што ў двары будуць ладзіць маленькае свята. Шпакоўню рабіла разам з бацькам, кажа, спатрэбіўся адзін дзень.

– Домік для птушак упрыгожыла дэкупажам, проста прыйшло ў галаву, раней ім не займалася. Вядома, пакрыла лакам, каб дождж не пашкодзіў шпакоўню, – расказвае дзяўчына. – Гэта не першая шпакоўня, дома вісяць яшчэ чатыры-пяць. Робіць бацька, я дапамагаю фарбаваць. І птушак любім, раней былі ў «Ахове птушак Бацькаўшчыны». Праўда, потым пераехала сюды.

### Выйгралі 200 рублёў

На гэтым жыхары двара не спыніліся. Акрамя шпакоўняў, тут з'явілася і пяць новых лавак з паддонаў. Паддоны пачысцілі, пафарбавалі ў розныя колеры – зялёны, жоўты, шэры, карычневы. Таксама зрабілі пясочніцу.

– Паддоны збіралі па знаёмых, большасць прывёз новы сусед. Фарбу набылі за ўласныя грошы – гэта як «паскрэблі па сусеках», толькі па суседзях.

> У бліжэйшых планах – дзіцячыя атракцыёны з колаў, каля 20 штук ужо ляжыць у падвале. Збіралі таксама па знаёмых, – расказвае актывістка Ірына Тархан.



Агулам у двары з'явілася шэсць шпакоўняў. На фота – актывістка Ірына Тархан.

– Увогуле хочам, каб у двары з'явілася дзіцячая пляцоўка.

Раней Ірына падала заяўку на конкурс праектаў двара ў Офіс еўрапейскай экспертызы і камунікацый. Выйгралі 200 рублёў – стартавы капітал. Да сярэдзіны мая павінны вызначыцца, куды будуць размяркоўваць грошы. Цяпер вырашылі «кінуць кліч» па суседзях, можа, нехта захоча паўдзельнічаць у добраўпарадкаванні ці дапамагчы матэрыяльна.

– Жыву не ў гэтым двары, але там працую дворнікам. Жыхары ветлівыя і добразычлівыя, за малым выключэннем, – кажа **Таццяна Боскіна**. – Да добраўпарадкавання двара стаўлюся станоўча.

> Мне, як дворніку, хочацца, каб было прыгожа.

Хочацца добрай дарогі, дадатковых парковачных месцаў, хаця б касметычнага рамонту – афарбоўкі дзвярэй, горак. Таксама добра было б хоць дзве сметніцы дадаць каля пабудаваных лавак. Двор прахадны, таму летам шмат выпадковых «аматараў адпачыць».

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

---

# З узроставымі зменамі змагаюцца творчасцю

ВАЛОЖЫН

**11 красавіка ў Валожыне зладзілі мерапрыемства «Каб памяталі» да Міжнароднага дня вызвалення вязняў канцлагераў.**

Па словах **Алены Жданюк**, псіхолага Цэнтра тэрытарыяльнага абслугоўвання насельніцтва, людзей запрашалі больш, але змаглі прыйсці чатыры жанчыны. Самай маладой з іх – 78 гадоў. Калі яна трапіла ў лагер, ёй было два гады. Астатнім жанчынам – за дзевяноста.

### Скарбонкі, падарункі і чаяванне

На сустрэчы валанцёры правялі майстар-клас для ўдзельніц. Жанчыны навучыліся рабіць скарбонкі з кардону і дэкаратыўна іх афармляць. Скончылі, як звычайна, чаяваннем з печывам і падарункамі для ўдзельнікаў.

– Са сталымі людзьмі мы шмат працуем у межах праекта «Папярэджанне кагнетыўных узроставых змен у сталых людзей праз далучэнне іх да творчасці». Праект фінансуецца нямецкім фондам узаемаразумення.

> У іх ёсць праграма «Памяць. Адказнасць. Будучыня», накіраваная, у тым ліку, і на прафілактыку ўзроставых парушэнняў і дэменцыі, – расказала Алена.

### Як у Валожыне працуюць з успамінамі

Па словах псіхолага, з узроставымі зменамі падапечных у Валожыне змагаюцца творчасцю. Штотыдзень сталыя жанчыны прыходзяць у цэнтр, дзе з валанцёрамі лепяць, малююць, вяжуць, шыюць.

У якасці валанцёраў працуюць іншыя сталыя жанчыны.

> Да тых гарадскіх жанчын, якім цяжка хадзіць, валанцёры прыходзяць дамоў раз на тыдзень. Да тых, хто жыве ў вёсках на Валожыншчыне, ездзяць раз на месяц.

– Таксама мы працуем з успамінамі, – кажа



Фота забяспечанае Аленай ЖДАНЮК.

Удзельніцы мерапрыемства «Каб памяталі».

Алена. – Да мая плануем зрабіць своеасаблівую фотавыставу. З дапамогай валанцёраў сабралі старыя фотаздымкі з рознымі відамі Валожына. Умова – на фотаздымку павінны быць чалавек. У тых жа месцах сфатаграфуем па магчымасці тых жа людзей, толькі ў сённяшнім Валожыне. Калі ж, напрыклад, кагосьці ўжо няма, сфатаграфуем нашчадкаў. Напрыклад, унука або ўнучку.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Фота se78.ru.

Рэчывы, што ўтрымліваюць батарэйкі, вельмі шкодныя для людзей і жывёл.

# Хто збярэ больш батарэек?

## На Вілейшчыне стартаваў экалагічны конкурс

ВІЛЕЙКА

**На Вілейшчыне пачынаецца экалагічны конкурс сярод навучальных устаноў. Школьнікам і навучэнцам прапануюць паспаборнічаць у зборы батарэек.**

Конкурс ладзіць таварыства «Экапартнёрства» і ўпраўленне адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама пры фінансавай падтрымцы праекта Еўрасаюза «Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай».

Як распавялі арганізатары, партнёры праекта праводзілі актыўныя мерапрыемствы па рэсурса- і энергазберажэнні. На грошы праекта закупілі кантэйнеры для паасобнага збору смецця, лінію для прасавання і цюкавання пластыку і смеццявоз.

Арганізатары звяртаюць увагу, што адна батарэйка забруджвае каля 20 квадратных метраў зямлі вакол і раскладаецца каля ста гадоў.

**Шкодныя рэчывы трапляюць у ежу і ваду, могуць выклікаць гармажальныя, генетычныя і анкалагічныя змены ў арганізме чалавека і жывёл.**

Для ўдзелу ў конкурсе школе неабходна запоўніць конкурсную заяўку. Тут пазначыць, колькі батарэек здалі ў навучальным годзе, і разам з пацвярджальнымі дакументамі даслаць на volhashliapo78@gmail.com да 15 мая.

**Прыз – экскурсія на смеццеперапрацоўчае прадпрыемства.**

Умовы конкурсу і бланк заяўкі для ўдзелу можна спампаваць у суполцы «Інфацэнтр аб працы камунальных службаў Вілейкі» – vk.com/kommunalka_vileyka.

Арганізатары заклікаюць юных віляйчан не толькі выкідаць батарэйкі ў спецыяльныя кантэйнеры, але і пераходзіць на шматразовыя акумулятары.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Пасадзі сваё дрэва! У Вілейцы зладзілі талаку

ВІЛЕЙКА

У рамках тыдня лесу 17 красавіка вілейчукі садзілі дрэвы.

– Пасадка дрэў у лесе на Вілейшчыне была нашай прыватнай ініцыятывай, – расказала карэспандэнту «РГ» актывістка жыхарка Вілейкі **Вераніка Гіль**.

Але актыўнасць неабходна было ўзгадніць з Вілейскім доследным лягсасам. Па словах дзяўчыны, тут ініцыятыву ўспрынялі пазітыўна.

Па тэлефонным званку вырашыла ўсё за пяць хвілін.

Размаўлялі ветліва, паабяцалі паказаць вольныя ўчасткі лесу для пасадкі дрэў, даць саджанцы.

– Хочацца знутры даведацца аб працэсе пасадкі дрэў, паназіраць, колькі часу трэба, каб аднавіўся лес, – падзялілася Вераніка.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Дырэктар Лебедзеўскай школы – адзін з пераможцаў абласнога конкурсу «Малады дырэктар»

У Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі правялі фінал конкурсу «Малады дырэктар». Сярод пераможцаў ёсць прадстаўнік Маладзечаншчыны.

Па рашэнні журы адным з лаўрэатаў конкурсу стаў дырэктар Лебедзеўскай школы Маладзечанскага раёна **Аляксандр Барэйка**.

**Аддзел інфармацыі.**

### Смаргонцаў запрашаюць на кірмаш вакансій

Яго правядуць 25 красавіка ад 10:00 да 13:00 у Смаргонскім дзяржаўным політэхнічным прафесійным ліцэі, вуліца Іванова, 42. Пра вакансіі раскажуць прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў Смаргоншчыны.

Спецыялісты службы занятасці раскажуць аб прафесійным навучанні, фінансавай падтрымцы для прадпрымальнікаў, распавялі ў райвыканкаме.

Тэлефоны для даведак: **(8-01592) 3-21-25; 2-18-11.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Пасадзілі чатыры тысячы дрэў

ВІЛЕЙКА

Дрэвы пасадзілі работнікі мясцовых арганізацый і прадпрыемстваў.

Сёлета каштаны, ліпы, дубы, рабіны і бярозы з'явіліся ў мікраёне Воўкаўшчына. А на тэрыторыі храма, што ў гэтым мікраёне, пасадзілі 10 блакітных елак.

Таксама маладыя дрэўцы і кусты пасадзілі ў вёсках, аграгарадках Вілейшчыны, каля дзіцячых школ і садкоў. Усяго ў раёне пасадзілі 4 000 дрэў і 2 700 кустоў, паведамляюць у райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**20**

СТОЛЬКІ КВАДРАТНЫХ МЕТРАЎ ЗЯМЛІ ЗАБРУДЖВАЕ АДНА БАТАРЭЙКА

ПАВОДЛЕ ЭКАПАРТНЁРСТВА

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 11.04 | 18.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1233 | **2.0953** |
| Еўра | 2.3922 | **2.3708** |
| Злоты, 10 | 5.5908 | **5.5438** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2780 | **3.2774** |
| Грыўня, 100 | 7.9195 | **7.8519** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **10.04** | **17.04** |
| Еўра | 2.3830/2.4030 | **2.3570/2.3800** |
| Долар ЗША | 2.1150/2.1330 | **2.0850/2.1050** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 10.04 | 17.04 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,99 | **18,99** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,75 | **3,95** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,94 | **7,21** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,90 | **6,20** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 2,00 | **2,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 2,90 | **3,95** |
| Баклажан, 1 кг | 7,50 | **4,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,90** |
| Капуста, 1 кг | 2,70 | **2,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | **3,80** |
| Морква, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Памідоры, 1 кг | 4,00 | **5,50** |
| Перац, 1 кг | 6,95 | **6,80** |
| Радыс, 1 кг | 7,00 | **3,90** |
| Салата, 100 г | 1,30 | **1,20** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,60 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,00 | **2,30** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,95 | **2,90** |
| Ківі, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | **2,90** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,30 | **3,90** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэцкі арэх, ядро, 1 кг | 25,00 | **25,00** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Жыхары пакутуюць ад прадаўцоў-махляроў

**МАЛАДЗЕЧНА**

Справа была восенню 2018 года. Па вёсцы Асавец Маладзечанскага раёна ездзіў аўтамабіль. Кіроўца прадаваў наборы дарагіх, але, па яго словах, вельмі добрых і якасных каструль, нажоў, кухонных і бытавых прыладаў.

Ацаніць асартымент прапанавалі двум мясцовым жыхаркам, якія гутарылі каля дома. Мужчына прапанаваў набыць за 500 долараў каструлі, а яшчэ частку кухоннага начыння атрымаць у падарунак.

Жанчына купіла ўвесь тавар, гандляр зрабіў «спецыяльную зніжку» ў 55%. Праўда, пасля яго ад'езду ў дамы знік наручны гадзіннік.

Жанчына звярнулася ў міліцыю. Неўзабаве сышчыкі высветлілі асобу прадаўца. Ім аказаўся 23-гадовы мінчанін, які сцвярджаў, што гадзіннік гаспадыня падарыла яму на шчасце. Тым не менш, дзеянні падазраванага праваахоўнікі кваліфікавалі па артыкуле 206 КК Рэспублікі Беларусь «рабаванне».

І такі выпадак, калі пасля візіту «работнікаў гарадскіх службаў» або камівояжора, якія гандлююць рэчамі па дэмпінгавых цэнах, у гаспадароў знікаюць грошы ці каштоўнасці, не адзіны.

«Вядуцца» людзі і на акцёрскі талент зламыснікаў, упускаючы ў сваё жыллё «хворых ці тых, хто моцна стаміўся».

Маладзечанскі РАУС просіць грамадзян, якія заўважылі ў пад'ездах шматкватэрных дамоў, на дваровай тэрыторыі, у сельскай мясцовасці прыезджых маладых людзей, дзяўчат, якія прапануюць нешта набыць, ці тых, хто просіць міласціну, неадкладна паведаміць пра гэта ў міліцыю па тэлефоне «102». Таксама пастарацца запомніць марку і нумар машыны. Як правіла, на промысел па «параўнальна сумленнае адабранне грошай» у насельніцтва яны прыязджаюць з іншых гарадоў і рэгіёнаў.

Пацярпелымі, у першую чаргу, становяцца людзі сталага веку.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Падлеткі залезлі ў будынак прадпрыемства. Адзін зваліўся з акна

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» паведамілі супрацоўнікі станказавода.

– Учора ўвечары, каля сямі гадзін, тры хлопцы-падлеткі залезлі ў адміністрацыйны будынак, які раней належаў станказаводу, а цяпер у яго іншы ўладальнік, – расказаў нам чытач.

Па яго словах, хлопцы палезлі на дах. Адзін з іх з немаленькай вышыні зваліўся праз дахавае акно на зямлю. Сябры пабеглі на прахадную выклікаць «хуткую дапамогу».

Пацярпелага падлетка забралі ў бальніцу.

«Рэгіянальная газета» звярнулася ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь. Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік СК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**, маладзечанскія следчыя цяпер праводзяць праверку і высвятляюць абставіны здарэння.

## Скраў ровар, каб з Вілейкі заехаць у Лагойск

**ВІЛЕЙКА**

15 красавіка Вілейскі суд асудзіў 19-гадовага жыхара Лагойска на год і сем месяцаў пазбаўлення волі.

– Хлопец, былы навучэнец Вілейскага дзяржаўнага каледжа, ужо быў асуджаны за серыю крадзяжоў ровараў і маёмасці з машын, – расказаў карэспандэнту намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

Аднак тады, 21 студзеня, фігуранта асудзілі на год і шэсць месяцаў з адтэрміноўкай. Адтэрміноўку хлопец не вытрымаў і ўжо 15 лютага скраў ровар у адным з інтэрнатаў Вілейкі.

У каледжы ён ужо не вучыўся, але прыехаў у Вілейку ў госці да сябра. Пагасціўшы, скраў ровар і паехаў на ім у Лагойск.

Учора хлопца асудзілі на год і сем месяцаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Тры будынкі гарэлі на Астравеччыне

**АСТРАВЕЦ**

Пра першы пажар выратавальнікам паведамілі 15 красавіка каля 14:00. Гарэлі два хлявы ў вёсцы Быстрыца Варнянскага сельсвета.

Агонь цалкам знішчыў будынкі. Папярэдняя прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём невядомай асобы.

Другі пажар у тым жа сельсавеце, у вёсцы Петраполь, здарыўся ноччу 16 красавіка. У аднапавярховым доме загарэўся падвал, дзе стаяў кацёл.

Агонь пашкодзіў дошкі на столі, маёмасць у падвале і кацёл на цвёрдым паліве. Пажар, верагодна, здарыўся з-за перапалу катла.

**Паводле сайта МНС.**

# У Маскве не ведаюць, у якую камеру змясціць транссэксуала з Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Беларус-транссэксуал Назар Г. апынуўся ў маскоўскім СІЗА па абвінавачванні ў махлярстве.**



Ілюстрацыйнае фота muz4in.net.

Цяпер ураджэнец Маладзечна Назар Г. чакае суда.

Мужчыну па дакументах і жанчыну па фізіялогіі спачатку накіравалі ў мужчынскі ізалятар, потым у жаночы.

**Назар Г.** нарадзіўся ў Маладзечне. У мінулым жыхцы звалі яго Насцяй. Яшчэ ў школе ён зразумеў, што ідэнтыфікуе сябе з іншым полам. Падчас вучобы ў тэхнікуме Насця вырашыла змяніць пол.

Чалавек, які мае праблемы палавой неадпаведнасці, звяртаецца ў Рэспубліканскі цэнтр сэксалогіі, дзе праходзіць розныя абследаванні. Пасля спецыялісты выносяць вердыкт: дазволіць змяніць пол, даабследаваць або адмовіць.

Па словах сяброўкі, Назар падаў дакументы на змену полу. Яму выдалі мужчынскія дакументы. У клініцы пад Мінскам бясплатна выдалілі грудзі. Другая аперацыя павінна была быць на палавых органах.

Правесці другую аперацыю Назар не паспеў. З роднымі ў яго склаліся няпростыя адносіны на глебе таго, што здарылася. Так каля 12 гадоў таму беларус апынуўся ў Маскве, якая здавалася яму больш свабоднай у поглядах.

У Маскве спачатку працаваў рознарабочым на будоўлях. Затым пазнаёміўся з грамадзянінам Украіны, які запрасіў яго ў фірму сваіх знаёмых. Па словах сяброўкі Алены, Назара зрабілі гендырэктарам. На гэтай пасадзе адбыліся нейкія фінансавыя непаразуменні.

У жніўні 2018 года беларуса затрымалі па падазрэнні ў махлярстве. Спачатку беларуса накіравалі ў мужчынскі ізалятар. Следчыя не данеслі да суда інфармацыю аб змене полу. Там Назар атрымліваў шматлікія пагрозы ў свой адрас, а неўзабаве яго перавялі ў СІЗА пры бальніцы, дзе ён знаходзіўся тры месяцы. Праз час беларус апынуўся ў адзіночнай камеры жаночага ізалятара №6 Масквы.

Расследаванне справы працягваецца. Сябры Назара з заміраннем сэрца чакаюць рашэння суда. У турме, лічаць яны, незвычайнаму вязню можа пагражаць небяспека.

Назара абвінавачваюць па артыкуле 159 Крымінальнага кодэкса РФ – махлярства, здзейсненае арганізаванай групай альбо ў асабліва буйным памеры. Яно караецца пазбаўленнем волі на тэрмін да 10 гадоў са штрафам у памеры да мільёна расійскіх рублёў або ў памеры заработнай платы або іншага прыбытку асуджанага за перыяд да трох гадоў альбо без такога і з абмежаваннем волі на тэрмін да двух гадоў альбо без такога.

**Паводле sputnik.by.**

## Вынес з мясакамбіната мяса і кілбас амаль на 600 рублёў

**АШМЯНЫ**

Праваахоўнікі Ашмянскага райаддзела міліцыі затрымалі супрацоўніка мясцовага мясакамбіната, якога падазраюць у прысабечванні тавару.

Падчас затрымання ў 39-гадовага падазраванага знайшлі прадукцыю гэтага прадпрыемства.

Грамадзянін вынес за вароты мяса на агульную суму 593 рублі 92 капейкі, паведамле УУС Гродзенскага аблвыканкама.

**Мужчыну затрымалі 3 красавіка, пасля працоўнага дня. У машыне ў падазронага былі прадукты прадпрыемства. З яго слоў, усё гэта ён вынес на сабе.**

Узбудзілі крымінальную справу па частцы першай артыкула 211 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь «Прысваенне альбо растрата».

**Паводле УУС Гродна.**

## Віляйчанін скраў у знаёмай картку і патраціў яе заробак на гарэлку

**ВІЛЕЙКА**

Крымінальную справу Вілейскі суд разглядзеў 11 красавіка.

У студзені мужчына скраў у сваёй знаёмай банкаўскую картку.

Пін-код ён падгледзеў на паперцы, якая ляжала дома ў знаёмай на паліцы побач з карткай.

Фігурант ведаў, што 27-28 студзеня знаёмая павінна была атрымаць на картку заробак.

Калі заробак пералічылі, літаральна за два дні мужчына патраціў усе грошы на выпіўку.

Фігурант быў судзімы пяць разоў. За гэта злачынства атрымаў год і сем месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму, расказаў карэспандэнту намеснік пракурора Вілейскага раёна **Андрэй Жукоўскі**.

Пракуратура звяртае ўвагу на выкананне правілаў захоўвання пін-кода банкаўскай карткі. Памятайце, што захоўваць яго трэба так, каб выключыць да гэтай інфармацыі доступ іншых людзей.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



# Пакатацца на квадрацыклах, выпіць кіслароднага кактэйлю або папарыцца ў лазні

Фота onliner.by.

## Што прапануюць аграсядзібы і санаторыі рэгіёна

**Часам так хочацца пазбавіцца ад гарадской мітусні, вырвацца на прыроду і проста дыхаць свежым паветрам. Марыце адключыць тэлефон, сабрацца з сябрамі і ад душы адпачыць?**

Піша Уладзіслава РЫНЕЙСКАЯ.

ПАВІЛЛЕ

Аграсядзібы і санаторыі рэгіёна прапануюць якасны адпачынак як для самых пераборлівых аматараў спакою, так і для тых, хто хоча ўмацаваць сваё здароўе. І чаго толькі ў іх няма! Тут і катанне на конях, і цёплыя вечары ля вогнішча побач з рэчкай, і лазня, якой так не хапае ў блокавых шматпавярхоўках.

Мы сабралі цікавыя прапановы з усяго рэгіёна, каб падзяліцца імі з вамі. Запэўніваем, вам дакладна спадабаецца.

### Можаце арандаваць ровары і квадрацыклы

Вядома, перш за ўсё з адпачынкам на прыродзе асацыююцца шашлыкі ці барбекю ў добрай кампаніі. Скарыстацца мангалам ці печчу для барбекю можна амаль усюды.

Але ўявіце, што пасля смачнай вячэры вы можаце не пайсці спаць, а паклікаць сяброў, арандаваць ровары і перад заходам сонца пракаціцца па прыгожых беларускіх мясцінах. Што лепш супакойвае душу, чым рух падчас велапрагулкі, свежае паветра і жывапісныя замалёўкі беларускіх краявідаў? І не прыйдзецца потым пазбаўляцца ад лішніх кілаграмаў, застанецца толькі атрымліваць асалоду ад цёплых успамінаў. У некаторых сядзібах можна скарыстацца паслугамі фатографа. Замоўце, і здымкі з адпачынку буду грэць вам душу і дома.

Аматарам актыўнага адпачынку акрамя ровараў прапануюць гульні ў футбол, валейбол і нават катанне на квадрацыклах. Паслуга, якая набыла папулярнасць за мяжой, карыстаецца попытам і ў нас. Калі яшчэ ніколі не спрабавалі – абавязкова закажыце, для добрай кампаніі і адпачынак павінны быць запамінальным. Таксама ёсць магчымасць замовіць катанне на плытах па рэчцы.

А тыя, хто сапраўды клапоціцца пра сваё здароўе, могуць адправіцца падлячыцца ў санаторый. Напрыклад, «Вяжуці», які размешчаны ў экалагічна чыстай зоне ў сасновым бары на беразе Віліі. Для карыснага адпачынку прапаноўваюць толькі якасныя паслугі. Можна выпіць кіслароднага кактэйлю ці фітачаю, наведаць кабінет ЛФК. Медыцынскі корпус прапануе ўсе віды фізіятэрапіі кваліфікаванымі спецыялістамі на сучасным абсталяванні. Санаторый спецыялізуецца на хваробах сістэм кровазвароту, хваробах касцёва-мышачнай сістэмы і злучальнай тканкі. А калі хочаце проста адпачыць, можаце наведаць зону барбекю ці сучасны бар.

І, нарэшце, вы адчуеце, што гарадскія турботы зніклі з вашай галавы.

### Які найлепшы рэлакс

Традыцыйна прыемная паслуга – лазня. Ёсць і руская лазня, і саўна. Тыя, хто аддае перавагу больш халоднай тэмпературы, могуць наведаць басейн. А калі ад цывілізацыі адпачнуць яшчэ не паспелі, некаторыя мясціны знаходзяцца ля рэчкі ці возера. Пагадзіцеся, пасля напоўненага адчуваннямі дня зайсці ў нагрэтую сонечнымі промнямі ваду – адзін з найлепшых рэлаксаў ва ўсім свеце.

Да прыкладу, у аграсядзібе «Карыцька», размешчанай у некалькіх кіламетрах ад Маладзечна, вы зможаце як наведаць рускую лазню з моцнай парай, так і адпачнуць ля вады – сядзіба знаходзіцца недалёка ад возера. Ёсць магчымасць зрабіць шашлыкі ці барбекю. Сядзіба таксама спадабаецца тым, хто любіць збіраць грыбы, ягады або гаючыя травы.

Вядома, тут ёсць сучасныя выгоды – душ, сталовая, кухня, спадарожнікавае тэлебачанне, wi-fi, паркоўка.

А што рабіць, калі ў вас ёсць дзеткі? Канешне, паехаць адпачываць разам з імі – у сядзібе ёсць гульнявая пляцоўка.

### Арандуйце лодку або катамаран

Аматары палявання могуць наведаць гасцінічны комплекс у вёсцы Верадова «Дамок паляўнічага». Ён знаходзіцца на тэрыторыі дэндрапарку ў асяроддзі хваёвага лесу, які не высякалі больш за 150 гадоў. Сюды прыязджаюць паляваць на казуль, ласёў, вальдшнэпаў, качак. Дыпламаваны егер і паляўніцтвазнаўца дадуць прафесійную кансультацыю.

Таксама можна пагуляць па лесе, паслухаць птушак, пазбіраць ягады ці грыбы, палавіць рыбы, якой шмат у возеры. Калі любіце водныя прагулкі, варта арандаваць лодку або катамаран.

А пасля катання можаце пагуляць у валейбол – на тэрыторыі гасцінічнага комплексу ёсць спартыўная пляцоўка.

### Наведайце майстар-клас ці экскурсію

Пасля прыемнага адпачынку паснедайце. Напрыклад, свежай садавіной і гароднінай з агарода некаторых сядзіб. Абавязкова паласуйцеся, не пашкадуеце.

Калі хочаце бліжэй пазнаёміцца з мясцовымі славутасцямі, некаторыя ўладальнікі ладзяць не толькі паходы, але і экскурсіі да архітэктурных помнікаў. Але можна скарыстацца і іншымі «адукацыйнымі» паслугамі. Напрыклад, гаспадары адной з сядзіб прапаноўваюць майстар-класы па цяслярскім майстэрстве і вырабе касметыкі з садавіны і гародніны.

А вечарам можна і паспяваць ля вогнішча. Нават у караоке – на адной з сядзіб ёсць і такая паслуга. Таксама гаспадары прапаноўваюць паўдзельнічаць у розыгрышах і атрымаць падарункі на памяць. Могуць арганізаваць катанне на конях вярхом ці ў брычцы.

На адной з сядзіб гаспадары самі арганізоўваюць паходы ў лес. Можна нават разбіць палатачны гарадок.

Бярыце родных, сяброў ці калег і запасайцеся добрым настроем – падчас адпачынку вас чакаюць толькі прыемныя ўражанні. •



# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце*

Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |




## ПРАДАЕЦЦА

• ГАЗ-51, бартавы. Т. (8-029) 6915981, (8-0176) 732921 тэлефанаваць пасля 18.00.*

• Нісан-Альмера, Прымера, 1996 г.в., 2,0 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра, 1995 г.в., 1,7 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра, 1997 г.в., 1,6 газ-бензін, універсал. Т. (8-029) 6232553.*

• Пежо 605, 1990 г.в., 2,1 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Форд-Сіера, 2,0Б, 1987 г.в., белы, 1750 руб., торг. Т. (8-029) 8658044.

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у з Бельгіі, у наяўнасці і пад заказ. Смаргонскі раён, в. Светач, 3. ІП Казакевіч А.В. УНП 591813704. Т. (8-044) 5431954, (8-029) 8338286.*

• Аўтазапчасткі Мазда 626, 1994 г.в., 2,0Д. Т. (8-029) 7792477.

• Аўтазапчасткі Форд-Эскорд, 1994 г.в., 1,8Д. Т. (8-029) 7792477.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

## КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто, можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку, якая патрабуе тэрміновага продажу. Т. (8-044) 4506876.*

• Любое аўто на ходу для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*




## ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 3 паверх. Т. (8-029) 6405133.*

• 2-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага раёна. Тэрмінова! 22 000 рублёў.Т. (8-0336) 6314302.

• 2-пакаёвая кватэра ў Белаазёрску Брэсцкай вобласці. Нядорага. Т. (8-029) 9611352.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам альбо памяняю на Мінск. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў новым доме ў Вілейцы па вул. Георгіеўскай, 3. На трэцім паверсе 5-павярховага цаглянага дома. Агульная плошча 56,2 кв.м, кухня 11,6 кв. м. Т. (8-029) 5581500, (8-029) 6658150.*

• 3-пакаёвая кватэра, раён «Зеніт», 5 паверх, годны рамонт. Магчымы продаж часткова з мэбляй. Т. (8-029) 5729911.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, м-н Усходні. Т. (8-044) 5332177.*

• Гараж ГБК 1, яма, падвал, абшыты вагонкай. Т. (8-029) 5729941.*

• Дача ў СТ «Жураўлік» каля в. Семернікі Маладзечанскага раёна. Т. Вэлком (8-029) 105-10-32.*

• Дача ў СТ «Раднічок» в. Мароські, домік з ацяпленнем, 5х3,5 м, тэраса 1,3х1,4 м, хлеўчык, у хлеўчыку – лазня, падвал, электрычнасць. Побач возера. Т. (8-0176) 536715.*

• Дача ў СТ «Сонечны бераг», 6 км ад Смаргоні, 47,6 кв. м, 2 паверхі, участак 0,1000 га. Гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, лес за ўчасткам. Недалёка р. Вілія. Т. (8-029) 3732743, (8-029) 6929159.

• Дом жылы у в.Нясцёркі Вілейскага раёна побач з вадасховішчам, 500 м, праз 200 м – лес, 3 хлеўчыкі, склеп, калодзеж, гараж. Т. (8-029) 6915981, (8-0176) 732921 тэлефанаваць пасля 18.00.*

• Дом у в. Будкі з участкам 20 сотак. 3 000 рублёў. Торг. (8-029) 8546371, (8-01771) 29644.*

• Дом у в. Жары Вілейскага раёна альбо на вываз. Т. (8-0176) 533458.*

• Дом у в. Замасцяны Валожынскага раёна, побач рака Беразіна, 70 м. Т. Вэлком (8-044) 7414043.

• Дом у в. Засценкі Вілейскага раёна, 4 000 рублёў. Т. (8-033) 6181069.*

• Дом у в. Засценкі ў Вілейскім раёне, Іжанскі с/с. Цана дагаворная. Т. (8-033) 3513656.

• Дом у в. Мазалі Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці, 45 км ад МКАДа, 32 000 рублёў. Торг. Т. (8-033) 6566401. Юлія.

• Дом у вёсцы, частковыя выгоды, гараж, сад, 15 сотак. Т. МТС (8-029) 7632306, (8-0176) 723235.*

• Дом у Вілейцы Мінскай вобласці. Надалёка вадасховішча, чыгунка і аўтавакзал, школа, садок, Еўраопт. Т. (8-01771) 22991, (8-033) 3133124.

• Дом у пас. Партызанскі Вілейскага раёна, 60,2 кв.м. Пячное ацяпленне, 25 сотак, газ, пліта, тэлефон, калодзеж, гаспадарчыя пабудовы, побач лес. 10 500 рублёў. Т. (8-029) 2600842.

• Дом утульны ў вёсцы Маркава Маладзечанскага раёна. Т. (8-029) 6725820 Анатоль.

• Кватэра ў а.г. Солы, 45 кв. м, гараж, зямля. Т. (8-029) 5218140.

• Кватэра ў цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 6051372.*

• Садовы домік у Красненскім с/с; СТ «Агеньчык-перамога». Т. (8-029) 3895935.*



## ЗДАМ

• У арэнду гандлёвыя, складскія, офісныя памяшканні ад 10 кв.м. да 150 кв.м па адрасе: г. Бабруйск, вул. Дзяржынскага, 4. Ахоўная тэрыторыя рынку «СадаводБудМаркет» (буд-, аўта-, сельгаставары, прадукты харчавання). Ацяпленне, электрычнасць, вада, стаянка. Добрыя ўмовы. ІП Сінкевіч А.В. УНП 191277863. Т. (8-029) 6666840, (8-029) 6666340 Вайбер.

• У арэнду складское памяшканне па адрасе: г. Бабруйск, вул. Дзяржынскага, 4 (тэрыторыя рынку). Плошча памяшкання 230 кв. м (магчымы меншы метраж). Склад абсталяваны сцелажамі, магчыма пад склад-магазін. Ёсць лямпа, электрычнасць, стаянка, ахова. ІП Сінкевіч А.В. УНП 191277863. Т. (8-029) 6666840, (8-029) 6666340 Вайбер.




## БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• **АРЭНДА МІНІ-ЭКСКАВАТАРА, ЭКСКАВАТАРА, ПАГРУЗЧЫКА. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ** любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• «Камп’ютары і спадарожнікавыя антэны». Абслугоўванне. Рамонт. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750 Т. (8-033) 3494488.*

• **АЎТАНОМНЫЯ КАНАЛІЗАЦЫІ. СЕПТЫКІ. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **ВОДАПРАВОД. АЦЯПЛЕННЕ. КАНАЛІЗАЦЫЯ. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **ГАЗ. ПРАЕКТАВАННЕ І БУДАЎНІЦТВА. УП «ТГВБУД» УНП 692024702 Т. ВЭЛКОМ (8-029) 9115605.***

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, манітораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Усё для даху і агароджы. Металапракат. Металачарапіца. Профнасціл. Металаштыкетнік. Труба профільная і г. д. Дахавыя (кровельные) работы. Замер. Дастаўка. ІП Смолка М. В. УНП 691185021. Т. (8-029) 1247481.*




• Уцяпленне і аддзелка фасада дома. ІП Гарлукевіч П.П. УНП 692021956. Т. (8-029) 8771721.*

## ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Металачарапіца, металапрофіль, гібкая чарапіца, вадасцёк, сайдынг. ІП Гаварко А. У. УНП 691403669. Т. (8-029) 7095664, (8-029) 1684125.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Капалка польская 2-радная (новы транспарт), 1950 руб. Т. (8-029)8658044.

• Прычэп да мотаблока. Т.(8-033) 3723298, (8-029) 6843087.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Домікі з пчаласем’ямі. Т. (8-044) 5395697.*

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, кураняты-нясушкі, цасаркі. Дастаўка. Т. МТС (8-033) 6908397, Вэлком (8-029) 6938397.*

• Карова высокаўдойная, 7 гадоў, цельная. Т. (8-033) 6029363.*

**Іншае**

• Дровы. Нядорага. Дастаўка бясплатная. Т. (8-029) 6106061.*

## КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

• **ЖК-ТЭЛЕВІЗАР**, ЖК-манітор, ноўтбук, калонкі, узмацняльнікі, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ІНШАЕ

• Ёсць прапіска. Т. (8-029) 5787964.

• Пасведчанне грамадскага інспектара Маладзечанскай МРІ на імя Белановіча С.Б. №000321 ад 13.04.2014 г. лічыць несапраўдным з 12.04.2019 г.

## ЗГУБЛЕНА

• Згубленыя дакументы (партаманет) на імя Смолкі М.В. прашу вярнуць за ўзнагароду. Т. (8-029) 1247481.*




## ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі ў Маладзечне патрабуецца вадзіцель-міжнароднік. Маршрут: Еўропа – РФ. Высокая і своечасовая аплата працы. ПГУП «Масіс Групп» УНП 690693934 Т. (8-029) 5665809.*

• Будаўнік для будаўніцтва навеса, альтанкі. Т. (8-029) 6130457.*

• Вадзіцель-міжнароднік для работы на рэфрыжэратары па маршруце РБ-РФ. Досвед працы не менш за 1,5 года. КФХ «Брэль» УНП 590337048 Т. (8-029) 6749715.

• Слесар МЗР, токар. Т. (8-029) 5092609.*

# Дзённік мамы другакласніцы: паспяваем вучыцца паміж канцэртамі



**Другі клас незаўважна і беззваротна блізіцца да завяршэння.**

Вучэбны год за ўрокамі, кантрольнымі, танцамі і дудкай ляціць вельмі хутка. Бурную канцэртную дзейнасць Варвара пачала яшчэ ад лютага. У канцы месяца юныя дудары з настаўнікам **Сяргеем Яруком** зладзілі канцэрт.

На невялікай сцэне з вялікім хваляваннем ігралі свае першыя п'есы. Здаецца, усё атрымалася. А большасць бацькоў адзначыла, які таленавіты ўсё ж у нас педагог. Нават тыя дзеці, якія не змаглі вучыцца ў музычнай школе, на факультатыве па дудцы знайшлі сябе.

Пасля было некалькі канцэртаў танцавальных. Самы важны – конкурс у сталіцы. Танцавалі вясёлы танец у бела-ружовых касцюмах. У якасці рэквізіту былі вялікія цукеркі. Дзеля гэтага шчасця дзятва мусіла прачынацца ў адну з субот у 5:30. Але засталіся задаволенымі: прыехалі з трэцім месцам.

Днямі выступалі перад будучымі першакласнікамі. Выхаванцаў дзіцячага садка прыводзілі ў школу, каб паглядзелі, што ўжо вельмі хутка іх чакае.

Ужо пачынаем пісаць сур'ёзныя кантрольныя. «Перавадныя» – так кажа Варвара. І ўсё хвалюецца: а раптам не напіша і быць ёй тады другагоднiцай.

На фізкультуры другакласнікі ўжо навучыліся добра плаваць у басейне. Больш за тое, у ваду цяпер не залазяць па прыступках, як раней. А скачуць адразу з борціка. Ім ужо дазваляюць плаваць рознымі стылямі і гуляць у мяч на вадзе. Вось толькі адна бяда: пераапранацца і сушыцца.

Сёлета на вясновых канікулах упершыню вырашыла пахадзіць у школьны лагер. Спадабалася. Асабліва тое, што разам з ёй хадзіла лепшая сяброўка. Праўда, была ўмова: забірайце мяне да сну. У лагеры дзеці наведалі лялечны тэатр і схадзілі ў кіно.

Пісьмовыя ўрокі пакуль робім разам. Мама, канешне, не вельмі дапамагае. Больш кантралюе. Часам дамашняе заданне робім на некалькі дзён наперад: а як па-іншаму з мамінымі бясконцымі паездкамі? Мусім і ўрокі рабіць на некалькі дзён, і коскі заплятаць на столькі ж.

Шмат чытаем і па праграме, і без праграмы. Вучым вершы Якуба Коласа і Сяргея Ясеніна. За вершы звычайна прыносім дзявяткі або нават дзясяткі.

Дамашняе заданне робіцца звычайна спакойна, без слёз і нерваў. Аднойчы толькі стамілася, рускую мову рабіць не хацела. І адмазка жалезная была: «Гэта не мая мова!»

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**



Варвара на канцэрце ў сталіцы.

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ



Фота planetofhotels.com

Паглядзець на гэты замак у Баварыі едуць і замежнікі, і нямецкія турысты.

# Дзе любяць адпачываць жыхары Германіі

**Набліжаецца лета, а з ім і адпачынкі.**

Хтосьці ўжо замовіў пуцёўку ў беларускі санаторый, хтосьці аддасць перавагу агароду на ўласным лецішчы. Нехта паедзе за мяжу. Калі беларусы імкнуцца за мяжу, то куды едуць на адпачынак замежнікі, да прыкладу, немцы?

### Умеюць працаваць і адпачываць

Той, хто быў у Германіі хоць раз, ведае, што немцы працуюць сумленна і шмат. Гэтым яны вядомыя ва ўсім свеце.

Працалюбства, адказнасць і пунктуальнасць – галоўныя рысы жыхара Германіі. Адразу можа падасца, што ў немцаў зусім няма часу на адпачынак. Але адпачываць яны таксама ўмеюць.

Па статыстыцы, Германія – звычайна ў спісе тых краін, якія трацяць на турызм вялікія грошы. Растлумачыць гэта можна не зусім спрыяльным кліматам і невялікай колькасцю сонечных дзён.

### Абіраюць адпачынак на радзіме

Немцы любяць адпачываць на радзіме. Згодна з дадзенымі гамбургскіх даследчыкаў, летась 34 працэнты немцаў адпачывалі ў Германіі. Большасць з іх аддавала перавагу балтыйскаму ўзбярэжжу федэральнай зямлі Мекленбург-Пярэдняя Памеранія: Штральзунд, Вісмар, Зелін.

Баварыя займае другое месца ў рэйтынгу. Гэта галоўны канкурэнт Макленбурга-Пярэдняй Памераніі. Лета 2018 года ў Германіі было даволі спякотнае. Таму многія абралі для адпачынку больш прахалодную Балтыку. У Баварыю ж турыстаў вабіць рамантычны замак 19 стагоддзя Нойшванштайн.

На трэцім месцы па наплыве нямецкіх турыстаў Бадэн-Вютэрмберг. А маляўнічы горны і лясны масіў Шварцвальд на паўднёвым захадзе гэтай зямлі вядомы прыгожымі ландшафтамі і атмасфернымі вёсачкамі.

**На сезон адпачынкаў у нямецкіх гарадах плануюць шматлікія карнавалы і фэсты. Літаральна кожны горад мае сваё свята. Гэта можа быць кірмаш, свята віна.**

Немцы заўсёды ўдзельнічаюць у масавых мерапрыемствах і пакідаюць там значныя грашовыя сумы.

Многім падабаецца разбіваць свой адпачынак на некалькі частак. Напрыклад, тыдзень адпачынку можна правесці на радзіме на Каляды, яшчэ тыдзень узяць на Вялікдзень, а два тыдні пакінуць, каб з'ездзіць на мора.

### Італія, Іспанія, Аўстрыя…

Больш за палову немцаў, 54,3 працэнта, правялі леташні адпачынак у іншых краінах Еўропы. За межамі ФРГ лідарам у спісе пераваг застаецца Іспанія. Асабліва любяць Балеарскія астравы, дзе можна не толькі адпачываць на пляжы, а яшчэ займацца спортам і запальваць на клубных вечарынках.

Другое месца ў рэйтынгу еўрапейскіх накірункаў займае Італія. Яе абіраюць немцы, якія прывыклі аб'ядноўваць пляжны адпачынак з шопінгам, смачнай ежай і наведваннем музеяў. У 2018 годзе ў турыстаў асабліва папулярнай была Матэра – старадаўні горад на поўдні Італіі. Сёлета яго аб'явілі культурнай сталіцай Еўропы.

У спісе пераваг нямецкіх турыстаў таксама і Аўстрыя. Зімой – гарналыжныя курорты, летам – маляўнічыя альпійскія лугі, у любую пару года – цікавая архітэктура. Гэта тое, за што немцы любяць Аўстрыю.

Мора і пляжы з развітай інфраструктурай вабяць нямецкіх турыстаў у Турцыю, як, дарэчы, і некаторых беларусаў. Тут фаварыт – турэцкая рыв'ера. Так неафіцыйна называюць частку марскога ўзбярэжжа Турцыі з найбольш развітымі курортамі. Ва ўмоўныя межы рыв'еры ўключаюць Міжземнае і Эгейскае моры на тэрыторыях правінцый Анталья і Мугла.

**У нямецкіх аматараў замежнага адпачынку па-ранейшаму ў топе Скандынавія. Яе любяць за вялізныя лясы, мноства рэк і азёраў, прыгожыя прыморскія краявіды.**

Каля 1500 кемпінгаў абсталяваны па ўсіх правілах у Фінляндыі, Швецыі, Даніі, Нарвегіі. І яны заўсёды запатрабаваныя.

### Калі не Еўропа, то Азія або Амерыка

У 2018 годзе кожны восьмы адпачынак жыхароў Германіі праходзіў у далёкіх краінах. Папулярнасцю карысталася Азія.

Для немцаў, якія любяць праводзіць адпачынак па-за межамі Еўропы, Паўночная Амерыка не менш прыцягальная, чым Азія. Летась 2,7 працэнта адпачывальнікаў ехалі з Германіі ў Канаду і ЗША.

І ўсё ж шмат жыхароў Германіі, асабліва на значных пасадах, замест адпачынку абіраюць працу. А пэўная частка хоць і адпачывае, але для гэтага нават не выязджае са свайго горада. Усё амаль як у нас.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**

# З’явіліся новыя звесткі пра Гелянова

## Пра што даведаліся гледачы падчас экскурсіі з Уладзімірам Садоўскім

МАЛАДЗЕЧНА

**Па ініцыятыве ЮНЭСКА 18 красавіка ва ўсім свеце адзначаюць Міжнародны дзень помнікаў і мясцін. У Беларусі да свята прымеркаваны фэст экскурсаводаў. Сёлета яго правялі дзясяты раз.**

У Маладзечне ў рамках фэсту 13 красавіка краязнаўца **Уладзімір Садоўскі** правёў экскурсію па Гелянове. Ён пазнаёміў наведнікаў з міжваеннай архітэктурай былога гарнізона ад 1921 да 1939 года. У тыя часы ў раёне Гелянова стаяў гарнізон 86-га пяхотнага палка Войска Польскага.

Уладзімір праводзіць экскурсіі па Гелянове ад 2013 года. Кажа, сёлетняя здзівіла вялікай колькасцю людзей – было каля паўсотні чалавек.

### У каплічцы аркі жыла сям’я

Краязнаўца нарадзіўся ў Самары, але ў Гелянове жылі яго бабуля і дзядуля – **Марыя** і **Раман Хацяловічы**, якія працавалі на мэблевай фабрыцы. У 1993 годзе Уладзімір з бацькамі пераехаў у Маладзечна.

– Пра тое, што ў Гелянове стаяць даваенныя дамы, упершыню пачуў ад дзядулі. Магчыма, менавіта яго расказы мяне зацікавілі. Таксама наведваў мастацкую школу побач з месцам, там выкладчыкі крыху расказвалі пра арку.

**Трыумфальную арку ля будынка Мінскага абласнога драматычнага тэатра пабудавалі з нагоды дзесяцігоддзя 86-га пяхотнага палка ў 1930 годзе. У адкрыцці ўдзельнічаў прэзідэнт Польшчы Ігнат Масціцкі.**

У каплічцы наверсе аркі ладзілі богаслужэнні. Да адкрыцця аркі адлілі звон, які вісеў тут жа. Цяпер ён знаходзіцца ў музеі гісторыі Мінска. У канцы 1940-х у каплічцы нават жыла сям’я.

Побач з аркай стаялі два каменныя львы. Таксама яе ўпрыгожвалі статуі рыцараў. Іх разбурылі савецкія ўлады ў 1939-1941 гадах, калі на тэрыторыі Гелянова размясціўся гарнізон Чырвонай Арміі. Саму арку знішчылі ў пачатку 60-х, магчыма, з-за таго, што перашкаджала руху транспарту ў бок новай трасы на Валожын.

### Дзе шукаў інфармацыю

Сур’ёзна цікавіцца гісторыяй Гелянова Уладзімір пачаў у 2011 годзе. Тады выйшла яго першая публікацыю ў блогу пра міжваенную архітэктуру Гелянова. Праз два гады набыў фотаапарат, каб здымаць будынкі.

– Шукаў інфармацыю ў даваенных часопісах, на польскіх сайтах. Карыстаўся архівамі, напрыклад, генпланы Гелянова знайшоў менавіта ў Мінскім архіве навукова-тэхнічнай дакументацыі. Пашанцавала, што ў інтэрнэце захаваліся нямецкія фотаздымкі. Калі накласці іх на сучасныя, можна параўнаць, якія з дамоў стаялі да вайны, а якія пабудавалі пасля.



Краязнаўца Уладзімір Садоўскі расказвае пра адзіны дом у закапанскім стылі, які захаваўся ў Маладзечне.

**Сёлета з’явілася новая інфармацыя пра месца – краязнаўца падзяліўся, што нарэшце даведаўся імёны амаль усіх архітэктараў будынкаў.**

Напрыклад, аўтар двух афіцэрскіх дамоў – архітэктар **Ян Кукульскі**. Таксама ён праектаваў жылыя дамы ў польскіх Лодзі і Макатове.

Архітэктар катэджа для палкоўніка – будынка, дзе цяпер месціцца дзіцячы цэнтр культуры «Расток», – **Аляксандр Куфарскі** з Млавы. У 1930-я гады быў сакратаром і чальцом праўлення Варшаўскага аддзялення Польскай асацыяцыі архітэктараў.

Аўтары тыповых дамоў па Чкалава – архітэктары **Аляксандр Сыгетыньскі** і **Бруна Збароўскі**, якія шмат працавалі ў Варшаве, Познані і Любліне.

### Хоча пабачыць звон

З Мінска на экскурсію прыехаў **Аляксандр Навахрост**. Дагэтуль Гелянова ён не бачыў.

**– Бываеш у такіх невялікіх гарадах і не задумваешся, што пэўны будынак можа несці такі вялікі гістарычны след. Класна, што ёсць людзі, якія пра яго расказваюць.**

Думаю, нават многія маладзечанцы гэтага не ведаюць, – расказвае хлопец. – Цікава ўсё, найбольш запомніўся звон, які цяпер знаходзіцца ў Мінску. Адразу з’явілася думка схадзіць у музей і паглядзець на яго. Магчыма, нават заўтра.

### Пяць рэчаў, якія варта паглядзець у Гелянове:

**Дом для афіцэраў ля аўтобуснага прыпынку «Драматычны тэатр».**

Дом спраектаваны ў пачатку 30-х гадоў. Пабудаваны з такога ж матэрыялу, што і дамы ў Варшаве. Цэглу везлі наўпрост з цэнтральнай Польшчы, у Беларусі такую не рабілі. Дом будавалі з цэглы з дадаткам цэменту, характэрнага матэрыялу для польскай архітэктуры. Ніжні паверх складалі з загартаванай цэглы. Цяпер яна пафарбаваная, але ў арыгінале мае цёмна-карычневы колер.

**Вышэй трэцяга паверха можна заўважыць «пляму» – цэглу іншага колеру, якой заклалі месца ад удару снарада. На сценах – сляды ад куль.**

Адна з цікавостак – металічная труба для сцягоў, якая знаходзіцца на сцяне дома. Сцягі вывешвалі падчас урачыстасцяў.

**Надпісы на сценах воданапорнай вежы.**

У 1939 годзе тут стаяў гарнізон Чырвонай Арміі. Некалькі разоў на цэгле напісанае прозвішча Бугаеў, недзе нават з датай – 1940 год. Краязнаўца мяркуе, гэта подпісы невядомага салдата.

**Адна з пазнейшых пабудоў гарнізона ў Гелянове – казарма.**

Казарма спраектаваная ў 1937 годзе. Цяпер гэта ўралагічнае аддзяленне бальніцы №1, пафарбаванае ў ружовы колер. Першапачаткова яно пабудаванае ў стылі функцыяналізму. У той час былі распаўсюджаныя падоўжаныя вокны, цяпер засталося толькі адно акенца.

**Бетонныя лесвіцы з шарамі.**

Упрыгожванні можна пабачыць ля некаторых дамоў па Чкалава. Гэта тыпавое добраўпарадкаванне тэрыторыі 1930-х гадоў.

**Дом, пабудаваны ў закапанскім стылі.**

У Гелянове былі распаўсюджаныя будынкі ў стылі функцыяналізму, характэрнага для міжваеннай Польшчы. Таму сярод іх вылучаецца дом, пабудаваны ў іншым стылі – так званым закапанскім. Калі ў 1920-я гады пачала адраджацца польская архітэктура, палякі звярнуліся да гістарычнай спадчыны. Новыя дамы будавалі так, каб яны выглядалі як шмат гадоў таму. Яшчэ ў 2008 годзе дом меў арыгінальны выгляд – драўляную ашалёўку, цяпер абкладзены сайдынгам.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

Больш фота – **на rh.by!** Адсканюйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/gelianova**






Фота забеспечана арганізатарамі семінара.

Выступае доктар-уролаг Ігар Віторскі.

# Хваробы сэрца, траўмы, анкалогія

## У Маладзечне гаварылі пра мужчынскае здароўе

МАЛАДЗЕЧНА

**Ініцыятыва «Самы час!» правяла 12 красавіка ў Маладзечне заключны семінар «Здароўе і даўгалецце мужчын 45+».**

Па словах арганізатараў, у свядомасці значнай часткі прадстаўнікоў моцнага полу дзейнічае састарэлая мадэль паводзінаў. А гэта значыць, што пасля сарака гадоў мужчыны пачынаюць рыхтавацца да пенсіі і спыняюць весці актыўны лад жыцця. З гэтай праблемай і працуе ініцыятыва.

Семінар у Маладзечне ладзілі, каб пашырыць веды аўдыторыі аб асноўных дэмаграфічных тэндэнцыях, звязаных са здароўем мужчын 45+, павысіць актуальнасць тэмы мужчынскага здароўя ў інфармацыйным полі, наладзіць прамыя кантакты паміж рэгіянальнымі СМІ, прадстаўнікамі арганізацый і прадпрыемстваў горада і экспертамі ў гэтай галіне.

Згодна з даследаваннямі, што праводзілі спецыялісты ў рамках ініцыятывы, мужчыны ва ўзросце пасля 45 рэдка актыўна адпачываюць, прывыклі да рытму жыцця «дом – праца», заклапочаныя бытавымі праблемамі, лічаць, што мары і амбіцыйныя планы – для маладых.

Маладзечанскія мужчыны занепакоеныя тым, што сталі менш зарабляць. Былі адказы кшталту: «Раней маглі ездзіць адпачываць на мора, а цяпер – толькі лецішча і дом» або «шукаю чыстыя азёры ў Беларусі, бо не магу дазволіць сабе Егіпет».

Такія вынікі спецыялісты атрымалі, калі правялі даследаванне мужчын з Маладзечна. Удзельнічала 18 чалавек ва ўзросце 45 і старэй.

Арганізатары ж перакананыя, што і пасля 45 трэба не саромецца вучыцца, імкнуцца да актыўнага даўгалецця, не забываць пра сваё здароўе, жыць для блізкіх.

### Ад чаго паміраюць мужчыны ва ўзросце 45+

Пазаштатны герантолаг Міністэрства аховы здароўя **Людміла Жылевіч** у сваім выступленні закранула праблему высокай мужчынскай смяротнасці ў Беларусі. Яна адзначыла, што даўгалецце мужчын залежыць ад таго, як яны пражылі ад 40 да 60 гадоў. Сярод фактараў, якія ўплываюць на працягласць жыцця – курэнне, хваробы сэрца, недастатковая фізічная актыўнасць, павышаная вага.

Ад чаго ж часцей паміраюць мужчыны? Па словах Людмілы Жылевіч, на першым месцы – хваробы сэрца, на другім – траўмы і атручэнні, на трэцім – анкалогія. Далей ідуць хваробы органаў дыхання і стрававання.

Маладзечна прадстаўляў загадчык уралагічнага аддзялення раённай бальніцы доктар-уролаг **Ігар Віторскі**. Ён распавёў, з якімі праблемамі сутыкаюцца мужчыны сярэдняга ўзросту. Гэта метабалічны сіндром, крызіс сярэдняга ўзросту і праблемы з прастатай.

Адзін з выступоўцаў прэс-сакратар ААТ «Белгазпрамбанк» **Сяргей Скляраў** прэзентаваў прысутным уласны распарадак дня. Дзень Сяргея пачынаецца ў 5:30 і заканчваецца ў 23:00.

Што рабіць мужчыну, калі яму 45+? У Сяргея такія адказы:

- заняцца скандынаўскай хадой
- правесці поўную дыягностыку арганізма
- заняцца любімым відам спорту, на які раней не было часу
- больш часу аддаваць сям'і, сябрам і захапленням
- асвоіць сацыяльныя сеткі
- зноў пачаць вучыцца і падарожнічаць.

Актывісты ініцыятывы «Самы час!» працуюць у гарадах Мінскай вобласці. У нашым рэгіёне – у Валожыне і Маладзечне. У мерапрыемствах паўдзельнічалі больш за 140 чалавек – кіраўнікоў прадпрыемстваў, прадстаўнікоў мясцовых органаў улады, грамадскіх арганізацый, сацыяльных і медыцынскіх устаноў.

У жніўні арганізатары плануюць зладзіць у Маладзечне фестываль «Здароўе і даўгалецце мужчын 45+».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Жыхар Смаргоні выйграў у «Што? Дзе? Калі?» амаль 1300 долараў

СМАРГОНЬ

Жыхар Смаргоні **Сяргей Сініцкі** выйграў у знатакоў з расійскай праграмы «Што? Дзе? Калі?» каля 1250 долараў. Эфір інтэлектуальнай гульні прайшоў 14 красавіка.

Супраць тэлегледачоў гуляла каманда **Барыса Белазёрава**.

Сяргей працуе ў ДЮСШ прафсаюзаў у Смаргоні. Ён не пачатковец у інтэлектуальнай гульні:

– Мае пытанні былі не толькі ў «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі і Расіі, але і ва Украіне і Арменіі, Азербайджане.

Пытанне, з якім выйграў Сяргей, гучала так: «У 1949 годзе рэжысёр Роза Ёфэ паставіла дзіцячы радыёспектакль, у якім усе ролі выканаў акцёр Мікалай Літвінаў. Тады Роза Маркаўна ўпершыню выкарыстала незвычайны прыём: паскорыла ход магнітафоннай плёнкі на ўсіх рэпліках галоўнага героя. Скажыце, як завуць галоўнага героя?»

У абмеркаванні ў знатакоў была правільная версія, аднак яны адказалі па-іншаму – падумалі, што гэта Калабок. А правільным быў адказ «Бураціна».

Сяргей прызнаецца, што інтэлектуальную перадачу глядзіць даўно. А пытанні стаў туды адпраўляць гадоў пяць таму:

– Спачатку ўдзельнічаў рэдка, але пашанцавала – і маё пытанне адабралі на фінал 2014 года ў «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі. Тады стаў адсылаць больш пытанняў.

**Паводле tut.by.**

## Музыканты з Польшчы і Германіі прыедуць на фестываль «Майскі вальс»

ВІЛЕЙКА

Адкрыты абласны фестываль духавой музыкі 24-27 мая сёлета прыме Вілейка.

Фестываль ладзяць раз на тры гады. У Вілейцы выступяць аркестры Міншчыны, а таксама госці з Германіі і Польшчы.

25 мая ў Палацы культуры правядуць конкурсную праграму, а пасля зладзяць вялікі канцэрт на цэнтральнай плошчы.

26 мая правядуць марш-парад аркестраў і ансамбляў мажарэтак па цэнтральнай вуліцы. Завершаць фестываль 27 мая, паведамляюць у райвыканкаме.

**Аддзел інфармацыі.**

## Білет на маршрутку з Маладзечна да Мінска падаражэў

МАЛАДЗЕЧНА

Каб заехаць з Мінска ў Маладзечна і наадварот, трэба будзе плаціць не чатыры рублі, а 4,50.

Пра гэта паведамляюць на сайце маршруткі Мола-Мінск.

Білет на маршрутку 700 каштуе столькі ж, паведаміў дыспетчар.

**Аддзел інфармацыі.**

## Алея сямейных дрэў з'явіцца ў Маладзечне

МАЛАДЗЕЧНА

13 красавіка ў парку Перамогі заклалі і ўрачыста адкрылі Алею сямейных дрэў.

У мерапрыемстве паўдзельнічалі некалькі сямейных пар горада.

На алеі ўсталююць камень з указаннем даты стварэння.

Гэта будуць месцы, дзе кожная сям'я змога пасадзіць сваё дрэва з нагоды шлюбу, нараджэння дзіцяці. Побач з дрэвам можна будзе ўсталяваць шыльду з генеалагічным дрэвам.

**Паводле БелТА.**

## У Залессі адзначаць 200-годдзе Станіслава Манюшкі

СМАРГОНЬ

4 мая ў музеі-сядзібе Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессі адбудзецца музычна-гістарычная гасцёўня «Знакаміты кампазітар і музычны дзеяч – Станіслаў Манюшка», прымеркаваная да 200-годдзя з дня нараджэння Станіслава Манюшкі.

Пачатак мерапрыемства а 15-й. Уваход вольны.

Станіслаў Манюшка – беларускі і польскі кампазітар, аўтар песень, аперэт, балетаў, стваральнік польскай нацыянальнай оперы, класік вакальнай лірыкі.

**Паводле oginskizalesse.by.**

## У Ашмянах выберуць сям'ю года

АШМЯНЫ

24 красавіка ў 14:00 у раённым Цэнтры культуры адбудзецца раённы этап рэспубліканскага конкурсу «Сям'я года».

Удзельнікі прадэманструюць візітныя карткі сям'і «Радавод», пазнаёмяць са сваімі традыцыямі, прадставяць сацыяльна-значны праект «Мая сям'я – мая краіна», дзякуючы якому раскажуць пра свае захапленні, поспехі і дасягненні.

**Паводле osh.by.**

# Людзі хаваюць інваліднасць, каб

## З якімі праблемамі ў адукацыі і працаўладкаванні сутыкаюцца людзі з інваліднасцю?

**Атрымаць адукацыю і працу для чалавека з інваліднасцю – сапраўдны выклік. Прафесію часта выбіраюць не па жаданні, а так, каб можна было фізічна заехаць ва ўніверсітэт. А праца – гэта рызыка страціць групу і льготы.**



Наталля Астаніна падчас праекта «Інклюзіўны барыста» ў Маладзечне.

Фота з архіва «РГ».

Якія складанасці ў адукацыі і рабоце чакаюць чалавека з інваліднасцю і як іх магчыма зменшыць, абмеркавалі на чарговым круглым стале ў рэдакцыі.

У абмеркаванні ўдзельнічалі юрыст Офіса людзей па правах з інваліднасцю з Мінска **Алег Граблеўскі**. Псіхолаг Валожынскага раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Алена Жданюк**. Наведнікі Валожынскага раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Павел Цыбульскі** і **Таццяна Баўтрэль**. Менеджар праектаў з Маладзечна **Ганна Холад**. Яна працавала ў праекце «Інклюзіўны барыста». Навучэнка радыётэхнічнага каледжа, дзяўчына на вазку з Маладзечна **Аксана Карніловіч**.

Мадэратарам гутаркі была журналіст «Рэгіянальнай газеты» **Аксана Ярашонак**.

**Аксана Ярашонак:**
Давайце пачнём з вашых асабістых гісторый. Ці складана было атрымаць адукацыю?

**Аксана Карніловіч:**
Школу закончыла на дамашнім навучанні. Хацела паступіць ва ўніверсітэт, але не пацягнула ЦТ. Пайшла бюджэтна вучыцца ў каледж. Першы паверх нам у асноўным арганізавалі, але нават на ім ёсць прыступкі. У нашай групе ёсць яшчэ хлопец на вазку.

**Таццяна Баўтрэль:**
Пасля школы я падпрацоўвала. Была непаўнагадовая, таму нават працоўнай кніжкі не было.

**Павел Цыбульскі:**
Шмат дзе прапаноўвалі працаваць, але трэба быў дазвол ад валожынскага доктара. Мне яго не далі.

**Алег Граблеўскі:**
Людзі з інваліднасцю вымушаныя выбіраць накірунак адукацыі не той, які хочуць і да чаго здольныя. Выбіраюць тую ўстанову, куды могуць фізічна трапіць. У Беларусі толькі адзін універсітэт, які адпавядае патрабаванням безбар'ернага асяроддзя – у Баранавічах. Адна дзяўчына хацела стаць дызайнерам, але мусіла абраць тэхнічную спецыяльнасць.

Другая складанасць – для паступлення абітурыент павінны атрымаць даведку аб стане здароўя.

> **Даводзіцца ісці на хітрыкі – хаваць інваліднасць, не казаць, што маеш групу.**

У дашкольных установах і школах прадугледжаны педагог, які будзе суправаджаць чалавека з інваліднасцю падчас навучання. У вышэйшых навучальных установах такія пазіцыі заканадаўствам не прадугледжаныя. Вінавата як заканадаўства, так і нежаданне ВНУ штосьці мяняць.

Чаму толькі ў Баранавічах установа ўладкаваная для людзей з інваліднасцю? На маю думку, гэта не праблема грошай, усе бар'еры і стэрэатыпы ў галовах. Гэта патрабуе не так шмат грошай. Знаёмая вучылася ў Беларусі, Маскве, цяпер паехала па праграме ў Нью-Ёрк. Кажа, такога стаўлення, як у ЗША, не сустракала ніколі. Менавіта стаўлення.

**Алена Жданюк:**
У Валожыне адзін хлопчык на вазку ходзіць у навучальную ўстанову.

> **Усё ў школе перамянілася са зменай дырэктара. Там нічога новага не пабудавалі, але ён пачаў хадзіць у школу, таму што змянілася стаўленне. Знік бар'ер, які быў у галаве.**

Калі фізічныя бар'еры мы паціху прыбіраем, то з псіхалагічнымі яшчэ трэба працаваць. Калі размаўляеш са спецыялістамі, яны пачынаюць расказваць пра безліч прычын, чаму класна вучыцца дома. Аксана, дома вучыцца класна?

**Аксана Карніловіч:**
Не зусім.

**Алена Жданюк:**
Калі адпраўляць дзяцей на вазку ў школы, ім будзе прасцей пасля трапіць ва ўніверсітэт, а затым ісці на працу.

**Аксана Ярашонак:**
Ганна, раскажыце пра вашы праекты, якія дапамагаюць людзям з інваліднасцю атрымаць адукацыю.

**Ганна Холад:**
Мы займаемся не такой адукацыяй, як у школе. Пры адукацыі людзей з інваліднасцю неабходна мець безбар'ерны асяродак. Такі ёсць у Баранавічах і Мінскім інстытуце імя Гётэ. Матэрыялы для навучання не заўсёды падыходзяць для пэўных груп, напрыклад, для інвалідаў па слыху або зроку.

Мы больш займаемся нефармальнай адукацыяй. Нядаўна ў Маладзечне праходзіў курс «Інклюзіўны барыста». Гэта праект па сацыяльнай адаптацыі, які мы ладзілі разам з Сашам Аўдзевічам.

> **Пляцоўкай абралі буйны магазін, каб звычайныя пакупнікі прызвычайваліся бачыць людзей на вазках.**

Пакуль не атрымалі варыянт працаўладкавання выпускнікоў курсаў, працуем з гэтым. Адным з удзельнікаў была Аксана.

**Аксана Карніловіч:**
Пасля курсаў ездзіла ў Брэст, Мінск варыць каву.

**Алена Жданюк:**
Мы на Валожыншчыне ладзілі праект «Вешанкі». Людзі з інваліднасцю маглі папрацаваць. Купіць такія экалагічна чыстыя грыбы было шмат ахвотных. Сярод удзельнікаў была Таццяна.

**Таццяна Баўтрэль:**
У спецыяльным памяшканні вырошчвалі вешанкі, апрацоўвалі, запакоўвалі. Было цікава назіраць, як яны растуць, даглядаць. Так бы дома сядзела, сумавала б. Спецыялісты навучаць, пакажуць.

> **Ужо дзесяць год, як хаджу ў цэнтр, пастаянна нечым займаемся – нават самаадчуванне палепшылася, весялей жыць стала.**

**Аксана Ярашонак:**
Якія правы чалавека з інваліднасцю парушаюцца, калі яму адмаўляюць у працаўладкаванні, калі немагчыма вучыцца, дзе хочаш?

**Алег Граблеўскі:**
Правы на адукацыю, самастойнае жыццё, годны ўзровень жыцця і сацыяльную абарону, даступнасць. Вясна – складаны перыяд для бацькоў, чые дзеці маюць інваліднасць. У гэты час адбываюцца пасяджэнні псіхолага-медыка-педагагічных камісій. Яны вырашаюць, дзе вучыцца дзіцяці – дома або ў класе, ці маюць яны права на суправаджэнне. Дзясяткі тэлефанаванняў у офіс, бацькі плачуць. Напрыклад, сын або дачка хадзілі ў школу, а цяпер іх пераводзяць на дом.

> **Ёсць тэст Векселера, яго вынік даследуе ўзровень інтэлекту. Ім правяраюць дзіця, і калі яно тэст не прайшло – гэта адна з прычын адмовіць у школе. Мы знайшлі гэты тэст у інтэрнэце, ніхто ў офісе яго не прайшоў.**

Бацькі шукаюць псіхолагаў і лагапедаў, каб іх словы было аргументам. Бывае, праходзяць камісію ў іншым

# не страціць групу



Алена Жданюк, псіхолаг Валожынскага раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.



Таццяна Баўтрэль, наведнік Валожынскага раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.



Алег Граблеўскі, юрыст Офіса людзей па правах з інваліднасцю, Мінск.



Ганна Холад, менеджар праектаў, Маладзечна.



Аксана Ярашонак, журналіст «Рэгіянальнай газеты».



Аксана Карніловіч, навучэнка радыётэхнічнага каледжа, дзяўчына на вазку, Маладзечна.



Павел Цыбульскі, наведнік Валожынскага раённага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

**Менавіта бацькі адказныя за тое, якім будзе адукацыйны маршрут дзіцяці. Ніякая камісія ці спецыяліст не могуць прымаць гэта рашэнне за бацькоў. Іх парады – толькі рэкамендацыя.**

**– Алег Граблеўскі.**

раёне. Атрымліваецца, што ў адным раёне праходзяць, у іншым не. Гэтыя пытанні вырашаць трэба на карысць бацькоў, а не бюджэту. Бо пакуль так: у нас няма грошай, таму не можам наняць чалавека, які будзе суправаджаць дзіця ў школе.

**Аксана Ярашонак:**

Ці могуць бацькі суправаджаць дзіця ў школе?

**Алег Граблеўскі:**

Многія бацькі гатовыя вучыцца на такога спецыяліста ва ўніверсітэце імя Максіма Танка.

**Было так, што бацькі прайшлі такое навучанне, але ў школу іх не пусцілі.**

**Аксана Ярашонак:**

Якая сітуацыя з працаўладкаваннем для людзей з інваліднасцю?

**Ганна Холад:**

У праекце «Інклюзіўны барыста» паўдзельнічалі чатыры чалавекі. У такіх праектах многае залежыць ад таго, што цікава ўдзельнікам. Калі рамесніцтвам хацела б займацца хаця б пяць чалавек, то, канешне, упор трэба рабіць на гэта.

У Лідзе ёсць кавярня, дзе працуе дзяўчына пасля праекта. У Мінску ёсць сетка кавярняў, дзе ўзялі на працу людзей з інваліднасцю. Задача праектаў – садзейнічаць, даць магчымасць. І каб мы ладзілі той ці іншы праект, найперш павінна быць зацікаўленасць з боку тых, для каго мы робім.

Пасля завяршэння праекта ў Маладзечне некалькі чалавек з інваліднасцю сказалі, што толькі цяпер даведаліся пра «Інклюзіўны барыста» і хацелі б далучыцца. Магчыма, паўторым.

**Алена Жданюк:**

Праблема працаўладкавання двухбаковая. Пераважна працадаўцы не гатовыя наймаць людзей з інваліднасцю. Але і многія людзі з інваліднасцю не імкнуцца працаваць, кажуць, ім хапае пенсіі.

Калі бацькі з дзяцінства не казалі дзіцяці, што ў яго нейкія недахопы, дзіця спазнавала свет не толькі з іх расказаў, мела сяброў, то яно мае больш жадання і магчымасцяў у дарослым жыцці.

**Алег Граблеўскі:**

У краіне ёсць працэдура пазбаўлення дзеяздольнасці. Калі чалавека прызнаць недзеяздольным, ён губляе грамадзянскія правы. Гэта самая безабаронная катэгорыя. Сярод іншага яны не могуць працаваць.

**Думаю, людзі з інваліднасцю не столькі не хочуць працаваць, колькі баяцца страціць статус.**

Медыцынскі дыягназ не гарантуе, што атрымаеш групу інваліднасці. Важна, з якімі бар'ерамі з-за захворвання сутыкаешся ў паўсядзённым жыцці. Напрыклад, у чалавека была другая група, паступіў. Значыць, сацыялізаваўся. Ці ўладкаваўся на працу, хаця нага не вырасла. Усё гэта падстава зняць групу. Натуральна, што чалавеку страшна страціць тое малое, што ёсць.

Адна дзяўчына ўладкоўвалася на працу ў сферы інфармацыйных тэхналогій. Там высокія заробкі.

**Яна хавала сваю інваліднасць, каб не адправілі на медыка-рэабілітацыйную экспертную камісію, якая магла б забараніць працаваць.**

Некаторыя кажуць: «У мяне другая непрацаздольная група, на работу выйсці не магу». Насамрэч ніхто не можа пазбавіць чалавека права на працу. Чыноўнікі кажуць, што цяпер не будуць у заключэнні МРЭКа пісаць «непрацаздольны». Будуць указваць толькі абмежаванні, якія тычацца гэтага канкрэтнага чалавека.

Няма навучальных матэрыялаў, падручнікаў, якія б улічвалі захворванні. І многія працадаўцы не могуць забяспечыць патрэбнымі ўмовамі людзей з інваліднасцю.

**Мой калега Сяргей Драздоўскі паступаў на юрыста. Яму хацелі адмовіць, кажучы: «Як вы на вазку будзеце бегаць за даўжнікамі?». Цяпер ён дырэктар Офіса людзей па правах з інваліднасцю.**

Некаторыя гадамі не ходзяць на МРЭК, каб іх не пазбавілі групы. Гэта велізарны канфлікт. Маё меркаванне – праблема не ў працы, а ў аплаце. Работа ёсць, але якасць жыцця ад яе не палепшыцца. А інваліднасць забяруць.

Ёсць яшчэ такая катэгорыя, так мая кліентка пра сябе кажа: «Каб узялі на працу, я занадта хворая, а каб групу далі, я занадта здаровая».

**Ганна Холад:**

Працадаўцы пазбягаюць наймаць людзей з інваліднасцю, таму што яны маюць права на скарочаны рабочы дзень, у іх больш адпачынак, і працоўнае месца трэба ўладкаваць.

Падчас праекта «Інклюзіўны барыста» мы з гэтым сутыкнуліся – многія былі гатовы прыняць праект у сябе, але прастора не адаптаваная для вазкоў.

**Алег Граблеўскі:**

У БДУ ў бібліятэцы працаваў чалавек на вазку. Змяніўся рэктар і здзівіўся – чаму чалавек працуе не поўны рабочы дзень. Праблемы працадаўцаў узнікаюць з-за неінфармаванасці.

**Напрыклад, калі на прадпрыемстве палова супрацоўнікаў мае інваліднасць, арганізацыя атрымлівае льготы.**

**Аксана Ярашонак:**

Што мінімальна могуць зрабіць працадаўцы, улады, каб палепшыць сітуацыю з адукацыяй і працай для людзей з інваліднасцю?

**Алена Жданюк:**

Усе стандарты па безбар'ерным асяродку прапісаныя – што якой вышыні павінна быць, пад якім вуглом. Але працуюць звычайныя рабацягі. І яны сапраўды не ведаюць патрабаванняў, ці робяць упершыню.

**Мы плануем правесці шэраг навучальных семінараў, каб расказаць пра гэтыя нормы. Патлумачыць, для чаго трэба апускаць бардзюры.**

**Алег Граблеўскі:**

Пра гэтыя праблемы нельга маўчаць. Пра гэта трэба расказваць. Таму што многія пра гэта проста не ведаюць.

**Алена Жданюк:**

Вельмі важна, каб праблемы людзей з інваліднасцю вырашалі з удзелам менавіта гэтых людзей.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Без футбола я не жыў і не дыхаў

## Дырэктар ФК «Маладзечна» пра тое, чаму праз сем гадоў вярнуўся ў футбол

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета 11 студзеня ў камандзе з'явіўся новы дырэктар – трохразовы чэмпіён Беларусі па футболе Арцём Ганчарык.**

Раней ён выступаў за ФК «БАТЭ», Барысаў (1998-2002), ФК «Белшына», Бабруйск (2003), ФК «Шахцёр», Салігорск (2004-2007), ФК «Віцебск» (2008-2009), ФК «Граніт», Мікашэвічы (2009), ФК «Гомель» (2010), ФК «Нёман», Гродна (2010) і ФК «Партызан» Мінск (2011).

У 2006 годзе скончыў БДУФК, атрымаў адукацыю трэнера па футболе. У 2016 у БДЭУ – спецыяльнасць «Эканоміка кіравання».

Сем гадоў – менавіта на такі тэрмін Арцём Ганчарык сышоў з футбола. Займаўся бізнесам – адкрыў спорт-бар пад Мінскам.

– Без футбола я не жыў і не дыхаў. Летась галоўны трэнер ФК «Маладзечна» **Аляксей Вергеенка** прапанаваў вярнуцца ў футбол. Спачатку быў паўабаронцам у камандзе, дзякуючы гэтаму гульцоў ведаю добра. Сёлета ў студзені стаў дырэктарам клуба, – кажа Ганчарык.

**Першая гульня сезона адбудзецца ў Чысці 20 красавіка, дзе ў 14:00 ФК «Маладзечна» сустрэнецца з ФК «СМІаўтатранс». 27 красавіка маладзечанцы згуляюць на выездзе з ФК «Клецк». У Маладзечне клуб адкрые сезон 5 мая – прыме ФК «Энергетык-БДАТУ».**

Пра планы ФК «Маладзечна» чытайце ў наступных нумарах.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**



Арцём Ганчарык.

## Хто з новых гульцоў будзе ў гэтым сезоне абараняць колеры ФК «Маладзечна»



**Ігар Анцыпаў**, 28.04.1986, абаронца. Выхаванец школы мінскага «Лакаматыва». За сваю кар'еру футбаліст выступаў за такія клубы, як «Нафтан», «Ведрыч-97», «Бяроза» і «Белтрансгаз» са Слоніма. Мінулы сезон правёў у складзе ФК «Клецк», за які згуляў у 25 сустрэчах і адзначыўся трыма забітымі мячамі.



**Канстанцін Куімаў**, 18.11.1997, паўабаронца. У кар'еры паўабаронцы значацца мінскае «Тарпеда» і суботні сапернік – «СМІаўтатранс» са Смалявіцкага раёна. Мінулы сезон Канстанцін правёў у дублі ФК «Смалявічы», згуляў у васьмі сустрэчах і забітымі мячамі не вызначыўся.



**Аляксандр Косцеж**, 10.04.1997, варатар. У мінулым выступаў за такія каманды, як «Прамень», «Узда» і «Нёман-Агра» са Стоўбцаў. У сезоне 2018 быў асноўным галкіперам дубля ФК «Смалявічы», за які правёў 29 матчаў, прапусціўшы 48 мячоў.



**Уладзіслаў Фядотаў**, 08.02.1997, паўабаронца. Пасля трох сезонаў у складзе «Іслачы» з Мінскага раёна паўабаронца зноў будзе абараняць зялёна-белыя колеры.



**Арцём Грыб**, 22.02.1995, абаронца. Летась Арцём гуляў у першай лізе за ФК «Чысць». Як і Фядотаў, з'яўляецца выхаванцам ДЮСШ-4.



**Эдуард Чудноўскі**, 03.01.1991, паўабаронца. Раней паўабаронца выступаў за дубль ФК «БАТЭ», магілёўскі «Днепр», «Белтрансгаз» са Слоніма, «Хвалю», ерэванскі «Арарат», «Клецк», «Ліду», «Оршу» і «Смаргонь». Колеры апошніх Эдуард абараняў і ў мінулым сезоне, згуляўшы ў чатырох сустрэчах без забітых мячоў.



**Сяргей Цвяцінскі**, 22.02.1984, абаронца. Правёў шэраг сезонаў у першай лізе ў складзе «Граніта», «Гарадзеі», мінскага «Тарпеда», «Ліды» і «Слуцка», з якім таксама выступаў і ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі. Акрамя таго абаронца мае легіянерскі досвед выступлення ў чэмпіянаце Латвіі за ФК «Даўгаўпілс». Мінулы сезон наваблранец правёў у «Лідзе», адыграў у 27 матчах і забіў адзін мяч.



**Андрэй Емяльянаў**, 15.10.1995, паўабаронца. Першай футбольнай школай для юнака стала Асіповіцкая ДЮСШ, першым трэнерам – Аляксандр Елезарэнка. Поспехі ў футболе не засталіся незаўважанымі. У сезоне 2011-2012 гадоў Андрэй сыграў у складзе дубля бабруйскай «Белшыны». У 2013 скончыў СШ №1 і паступіў у БДУФК на спецыяльнасць «Менеджмент у спорце». У гэтым жа годзе адбыўся дэбют гульца за асноўную каманду горада. У мінулым сезоне паўабаронца выступаў у складзе ФК «Асіповічы», за які згуляў у 18 матчах і забіў адзін мячоў.

*Працяг чытайце ў наступных нумарах «РГ».*

**Аддзел інфармацыі.**
**Фота vk.com/fcmolodechno.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Рэчыва, што надае той ці іншы колер прадметам, якія яно пакрывае або пасылае.
3. Майстар, які вырабляе прадметы мастацтва, упрыгожанні з каштоўных металаў, з каштоўнымі камянямі.
5. Старадаўняя пасудзіна для пітця ў форме паўшар'я.
8. Ласкавая назва каровы.
10. У більярднай гульні – удар шарам у другі шар, які, ударыўшыся аб борт і адскочыўшы ад яго, трапляе ў лузу.
11. Працэс паглынання кіслароду і выдзялення вуглекіслаты жывымі арганізмамі.
12. Міфалагічная казачная птушка, якая валодала здольнасцю пры набліжэнні смерці згараць, а потым зноў паўставаць з попелу.
13. Форма, крой, па якіх пашыта што-небудзь – адзенне, абутак, галаўныя ўборы.
15. Невялікая шкляная пасудзіна на ножцы для піцця спіртных напояў.
17. Дзеяч у галіне права.
19. Знаходзіцца дзе-небудзь, ведаючы загадзя аб маючым адбыцца прыходзе, прыбыцці, з'яўленні.
22. Празрыстае крышталічнае рэчыва з моцным мятным пахам; выкарыстоўваецца ў медыцыне, парфумерыі і кандытарскай справе.
23. Прыстасаванне або рэчыва для ачысткі вадкасцяў або газаў ад непатрэбных прымесяў.
24. Сучасны танец мексіканскага паходжання хуткага тэмпу.
25. Амерыканскі горад, дзе з'явілася першае кола кругагляду.
26. Машына, якая ператварае які-небудзь від энергіі ў механічную энергію.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Думка, меркаванне, выснова, якія з'явіліся ў выніку роздуму.
4. Малады спартсмен, дасягненні якога ацэньваюцца па асобым узроставым разрадзе.
6. Слоўны абмен звесткамі, думкамі.
7. Паводле аднаго са слоўнікаў, гэта кускавая, нанізаная на дубцы бараніна, якую пасмажылі на вуглях.
9. Санлівасць; паўсон.
12. У анатоміі кожная з трох кароткіх трубчастых костачак пальца.
14. Вырабы з гэтай расліны – адны з самых папулярных сувеніраў з Беларусі.
15. Шосты месяц каляндарнага года.
16. Першая згадка пра гэты тавар са Швейцарыі датуецца I стагоддзем нашай эры.
18. Гэта рака, што цячэ ля Лондана, замярзае вельмі рэдка. У 1814 годзе лёд быў настолькі моцны, што на рацэ зладзілі кірмаш.
20. Чалавек, які дае сваю кроў для пералівання хворым.
21. Традыцыйна на беларускім вяселлі менавіта ён быў тамадой.
27. Да каго звернуты творы пісьменнасці.
28. Лісце гэтага дрэва дазваляюць атрымаць жоўтую фарбу для воўны.

## Адказы на крыжаванку з №15

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Ёга. 2. Розга. 6. Аўтобус. 7. Днепр. 8. Ілюзія. 10. Рулон. 13. Журавіны. 14. Вадаём. 15. Жалеза. 18. Арнамент. 19. Люты. 20. Вага. 24. Жыла. 26. Лічба. 27. Адэса. 30. Жвір. 31. Віно.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 3. Адзінка. 4. Радыятар. 5. Жанр. 9. Разгадка. 11. Лясун. 12. Луска. 16. Вата. 17. Белы. 19. Лямпа. 21. Ідылія. 22. Вакал. 23. Чыгунка. 25. Рагу. 28. Аснова. 29. Ахова. 32. Богі.



## ● ГАРАСКОП 19-25 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Жывіце сваім жыццём, бо толькі тады чалавек можа быць шчаслівым.



**ЦЯЛЕЦ.** Клапаціцеся пра сваё здароўе і ведайце, што менавіта стрэсы і страта душэўнай гармоніі прыводзяць да зніжэння імунітэту і ствараюць умовы для развіцця як вострых, так і хранічных захворванняў. А вірусы і генетыка – гэта ўсяго толькі выканаўцы падрыўной работы, і яны бяссільныя, калі псіхіка знаходзіцца ў раўнавазе.



**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы нешта задумалі, то не варта адступаць і змяняць прынятыя рашэнні. Цяпер найлепшы час для вас. Рэкамендуецца дзейнічаць, выкарыстоўваючы свае абаянне. Адзінае, што патрабуецца ад вас – гэта не здавацца і праяўляць рашучасць ва ўсіх пачынаннях.



**РАК.** Заняткі спортам пастаянна павінны стаць часткай вашага ладу жыцця. Гэта зробіць вас больш моцнымі фізічна, маральна і эмацыйна. Таксама палепшыць здароўе і знешні выгляд.



**ЛЕЎ.** Вас стрымлівае страх. А гэта ілюзія. Большасць таго, чаго мы баімся, ніколі не здараецца. Але нават калі і здараецца, то часта аказваецца не такім дрэнным, як мы думалі.



**ДЗЕВА.** Каб падзеі гэтых дзён змаглі парадаваць, неабходна зразумець, што творыцца вакол вас, а пасля гэтага, не ўмешваючыся, даць таму, што адбываецца, вырашыцца само сабой.



**ШАЛІ.** Звярніце ўвагу на сваё бліжэйшае асяроддзе, людзей, якім вы давяраеце, але з якімі нядаўна пасварыліся. Магчыма, нехта паспрабуе агаварыць вас ці паведаміць ілжывыя звесткі. Таму ўсю інфармацыю старанна правярайце, не ідзіце на повадзе ў эмоцый, будзьце разумныя. Святло ўнутры вас разгоніць цемру сумневаў і ў хуткім часе вам стане ясна, хто спрабуе вадзіць вас за нос і толькі прыкідваецца вашым прыяцелем.



**СКАРПІЁН.** Трымайце эмоцыі пад кантролем, бо цяпер вас будуць выпрабоўваць на трываласць. У сярэдзіне вас будуць кіпець страсці, якія паспрабуюць вырвацца вонкі і перакінуцца на любога, хто трапіць пад руку. Каб падзеі дзён не прывялі да негатыўных наступстваў, старайцеся стрымліваць сябе ў любых сітуацыях.



**СТРАЛЕЦ.** Здабыццё матэрыяльнага дастатку – галоўная ваша задача цяпер. Вам трэба будзе сумяшчаць некалькі спраў адразу, а таксама шукаць залатую сярэдзіну паміж тым, дзе трэба праявіць старанніасць, і тым, дзе не варта перашчыраваць.



**КАЗЯРОГ.** Цяпер вы можаце рэалізаваць усё, што даўно планавалі, але не рашаліся зрабіць раней. Перш за ўсё, гэта тычыцца творчых сфер, звязаных з пазнаннем і вывучэннем чагосьці новага.



**ВАДАЛЕЙ.** Перыяд гармоніі і ўраўнаважанасці літаральна ва ўсіх сферах.



**РЫБЫ.** Спрыяльны час для правядзення розных вечарынак ці проста сустрэч з сябрамі. Не выключаныя і рамантычныя сустрэчы. Падчас такіх мерапрыемстваў старайцеся ўстрымлівацца ад моцных напояў і празмернасцяў у ежы, інакш рызыкуеце атрымаць непрыемныя наступствы.

Марыя УРБАНОВІЧ.

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 6 | 7 | | 1 | | | | |
| | 8 | | 6 | | | | | 7 |
| | 9 | | 4 | | | 6 | 8 | |
| | | | 2 | | | | 1 | 5 |
| 3 | 2 | | | | 5 | | | |
| | | 8 | 1 | | 4 | | | |
| 9 | | | 3 | | | | 7 | |
| | 5 | | | | 2 | | | 3 |
| | | 4 | | 7 | 1 | | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

Калі вы хочаце даведацца, чаму 26-гадовая іспанка Анхела Эспіноса Руіс, якая жыве на поўдні Іспаніі, вырашыла стаць пастаянным аўтарам «Рэгіянальнай газеты», вам абавязкова трэба набыць наступны нумар нашага выдання. Там вы дазнаецеся, чаму яна лічыць вас, чытачоў «РГ», сваімі сябрамі. Магчыма, зможаце пераняцца яе захапленнем беларускай мовай. Зразумееце, чаму адной з мэтаў Анхелы стаў прыезд у наш рэгіён, які мы разам можам наблізіць.



## Збіраецеся на лецішча? Захапіце «Рэгіянальную газету»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

- **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 4 рублі 20 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 12 рублёў 50 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



## ПРОСТА АНЕКДОТ

***

– Клянуся быць з табой у багацці і ў раскошы, у радасці і ў шчасці, у Парыжы і ў Лондане, у тваіх замках і на яхтах…

– Нявеста! Па тэксце, па тэксце.

***

– У мяне ёсць дзве навіны.

– Пачні з добрай.

– Хто табе сказаў, што ёсць добрая?

## 20 красавіка, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 4 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -3,6°С у 2017 годзе
Максімальная тэмпература +21,5°С у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 11,6 мм у 2012 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Ці дапамагла ваша адукацыя вам у жыцці?



**Аляксандр Выдранкоў, аператар станкоў і ліній з праграмным кіраваннем:**
– Маю прафесіі токара, слесара механазборачных работ, фрэзероўшчыка. Адукацыя дапамагла, работы запатрабаваныя. Адвучыўся і на аператара станкоў. Са школы захапляўся электронікай і праграмаваннем. Я адзін з тых шчаслівчыкаў, што любяць сваю працу.



**Ігар Лабецкі, газарэзчык:**
– Атрымаў адукацыю аўтамеханіка, дапамагла для сябе. Не працую па спецыяльнасці, бо маленькі заробак, а дзе добрыя грошы, пастаянна няма вакансій. Каротка: дзе больш плацяць за працу, там і працую.



**Вольга Смалонская, дырэктар школьнага музея:**
– Працую па спецыяльнасці – музейная справа і ахова гісторыка-культурнай спадчыны. Вучыцца было цікава, выкладалі выдатныя дысцыпліны – ад лаціны да сфрагістыкі і анамастыкі. Гэта вузкая прафесія, але я ведала, кім хачу быць.



**Аксана Карніловіч, вучыцца ў радыётэхнічным каледжы:**
– Абрала спецыяльнасць, бо заўжды цікавілася тэхнікай. Калі будзе магчымасць, хутчэй за ўсё, пасля вучобы звяжу з гэтай прафесіяй жыццё. Навучанне для мяне – гэта і саморазвіццё, і заробак.



**Вольга Баброўка, інжынер-геадэзіст:**
– Працую па спецыяльнасці. Першапачаткова была сярэдняя спецыяльная адукацыя, затым скончыла ўніверсітэт па гэтай жа спецыяльнасці. Работа падабаецца сваёй дынамікай, у ёй і палявыя, і камеральныя работы. Дзякуючы працы паездзіла па Беларусі.



**Юры Хома, маляр:**
– У мяне сярэдняя спецыяльная адукацыя – токар-фрэзероўшчык, але па спецыяльнасці не працую, бо мала плацяць. Адукацыя ніяк не дапамагла.



**Вікторыя Альшэўская, у дэкрэтным адпачынку:**
– У мяне сярэдняя адукацыя, у жыцці яна не дапамагла, але і не пашкодзіла. Да дэкрэту працавала на БелТІЗе дома, рабіла разеткі.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


**Артыкул на тэму адукацыі і працы для людзей з інваліднасцю чытайце на старонках 20-21.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№16 (1251) 19.04.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 606. Падпісана ў друк у 9.00 18.04.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.